# Свабоду палітвязням!

## Бюлетэнь прысвечаны беларускім палітвязням (Palitviazni.info)

### Крымінальную справу супраць Алеся Міхалевіча не спыняць, пакуль ён не вернецца?



**Следчы камітэт фактычна адказаў адмовай на хадайніцтва Алеся Міхалевіча, у якім былы кандыдат у прэзідэнты і вязень СІЗА КДБ прасіў спыніць яго крымінальны пераслед. Такім чынам, Міхалевіч дагэтуль застаецца фігурантам справы аб менскіх “масавых беспарадках” 19 снежня 2010 г., якімі ўлады лічаць пратэсты супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.**

Адказ палітыку-уцекачу падпісаны начальнікам па расследаванні злачынстваў на транспарце і супраць парадку выканання вайсковай следчага упраўлення СК па Мінску **А.Н. Сукалам**. У лісце паведамляецца, што рашэнне, ці спыніць справу, ці не, можа быць вынесена толькі пры яго яўцы Міхалевіча для правядзення следчых дзеянняў з яго ўдзелам.

**Алесь Міхалевіч** размясціў копію ліста са Следчага камітэта на сваёй старонцы ў Фэйсбуку. *“Амаль два месяцы таму па рэкамендацыі сваіх адвакатаў падаў хадайніцтва ў Следчы камітэт на спыненне ў адносінах да мяне крымінальнай справы. Вось такі атрымаў адказ”,* - патлумачыў палітык.

Міхалевіч выказаў здзіўленне тым, што “ў адносінах да іншых” крымінальныя справы “маглі спыніць і без іх прысутнасці”.

Пасля ўцёкаў з Беларусі і атрымання палітычнага прытулку ў 2011 годзе Алесь Міхалевіч жыве ў Чэхіі. Як вынікае з яго інтэрв'ю апошняга часу, палітык мае намер займацца бізнэсам за межамі Беларусі.

***palitviazni.info***

### Марына Адамовіч: Галоўнае патрабаванне да ўлады – рэабілітацыя палітвязняў

**Рэабілітацыя палітычных зняволеных павінна заставацца галоўным патрабаваннем да ўладаў Беларусі, – лічыць Марына Адамовіч, жонка палітычнага зняволенага, былога кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча.**

Пры гэтым **Марына Адамовіч** спасылаецца на меркаванне **Мікалая Статкевіча**, якое ён выказаў у сваім лісце з Магілёўскай турмы, дзе адбывае пакаранне:

*- Мяне асабіста вельмі клапоціць тое, што зараз адбываецца вакол праблемы палітвязняў. Праваабаронцы прапанавалі зняць патрабаванне рэабілітацыі на карысцьаднаўлення ў палітычных правах, знішча судзімасці і г.д., звярнуўшыся праз Фэйсбук у тым ліку і да Мікалая Статкевіча. Адказ жа Статкевіча ніякім чынам не быў ні прыняты да звестак, ні адрэфлексаваны тымі, каго ён тычыўся.*

Па словах Марыны Адамовіч, Мікалай Статкевіч лічыць, што, незалежна ад сітуацыі, ад магчымасці і рэальнасці, на сёняшні дзень атрымаць рэабілітацыю для ўсіх ахвяраў палітычна матываваных прысудаў у Беларусі – патрабаванне першае і галоўнае. Адмаўляцца ад яго ні ў якім разе нельга, кажа Марына Адамовіч.

***racyja.com***

## Зьміцер Дашкевіч на волі!




**Лідэр “Маладога фронту” быў вызвалены з гарадзенскай турмы 28 жніўня ў 6.20 раніцы. Каля варотаў турмы Зьміцера Дашкевіча сустракала ягоная жонка - Наста, журналісты і сябры, якія чакалі яго ўсю ноч.**

Падчас імправізаванай прэс-канфэрэнцыі, якая адбылася на рагу вуліц Гараднічанскай і Кірава Дашкевіч заявіў, што адчувае сябе здаровым, дзякаваў усім за падтрымку, якую ён адчуваў за кратамі і сказаў, што мае пляны працягваць сваю ранейшую дзейнасьць.

**Зьміцер Дашкевіч** быў затрыманы - паводле афіцыйнай вэрсіі - за хуліганства напярэдадні апошніх прэзыдэнцкіх выбараў у 2010 году і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі. Аднак у 2012 годзе вызным судом ён быў прыгавораны да яшчэ аднаго году зьняволення, нібыта, за непадпарадкаваньне супрацоўнікам міліцыі.

***svaboda.org***

## Севярынец: Ксёндз Лазар – чарговы закладнік



**БХД пачала збор подпісаў каля касцёлаў і заклікае ўсіх каталікоў далучыцца – выйсці збіраць подпісы, спампаваўшы просты зварот з патрабаваннем вызваліць ксяндза Лазара, які можна знайсці ў сеціве і пад якім падпісалася ўжо больш за 1000 чалавек.**

*“Пасля справы Андрэя Гайдукова ніякай веры шпіёнскім справам КДБ няма. Гэта відавочна ўсім. Пасля выбухаў і справы з тэрактам відавочна, што ўсе зачыненые справы – гэта альбо фальсіфікацыя, альбо спосаб ціску на грамадства. Думаю, у гэтым выпадку мы маем і адно і другое. Трохі дзіўна, што маўчыць касцёл. Вядома, што ў выпадках, звязаных з крыміналам, дыпламатычна прамаўчаць, але тут жа рэжым. І іерархі касцёла ведаюць, што ксёндз ні ў чым не вінаваты,”* – кажа **Павал Севярынец**.

Севярынец лічыць, што разбірацца ва ўсіх падобных рэчах можна было б праз хатні арышт і падпіску аб нявыяздзе, што сёння нармальная практыка, калі справа тычыцца святароў. У любым грамадстве выказваецца вялікая павага да людзей, якія дбаюць пра чалавечыя душы.

*“Безумоўна, збіраць подпісы трэба і электронныя, і каля саміх касцёлаў. Неабходна патрабаваць вызвалення Лазара, спадзяюся, што дойдзе і да выказванняў іерархаў, таму што многія ксяндзы па ўсёй Беларусі задаюць пытанне: а што, калі гэта здарыцца са мной? Тут патрэбна хваля салідарнасці і патрабаванне безумоўнага вызвалення ксяндза. Думаю, што гэта чарговы закладнік. Патрэбны ён для перамоваў з Захадам ці для ціску на Ватыкан – справа дзясятая. І няхай не думаюць прадстаўнікі іншых канфесій і іншых сацыяльных групаў, што гэта тычыцца толькі касцёла,”* – адзначае адзін з лідараў БХД.

На пытанне, што будзе з Лазарам у бліжэйшы час, Севярынец лічыць, што рэжым атрымаў досвед у захопе закладнікаў і цяпер удасканальвае яго. *“Тое, што адбываецца з Лазарам, – гэта чарговы ўзровень. Гэта спосаб узяць у закладнікі святара, чалавека, які звязаны з непадпарадкаванай дзяржаве сацыяльнай супольнасцю, якая налічвае па розных ацэнках ад мільёна да паўтара мільёна чалавек у Беларусі. Лукашэнка так проста гэтага чалавека не аддасць. Гэта груба, але ў ягоным выпадку гэта працуе. Пакуль Лукашэнка не паставяць на месца, ён будзе гэта рабіць. А паставіць яго на месца можа беларускі народ, з божай дапамогай. Таму я думаю, што калі ў дзясятках, а то і сотнях парафіяў будуць збіраць подпісы за вызваленне ксяндза Лазара, то праігнараваць гэтую кампанію не здольны будзе нават Лукашэнка. Яму давядзецца выпусціць ксяндза без ўсялякіх умоў. Думаю, што калі б усе герархі пачалі такі збор подпісаў, альбо падтрымалі яго, то справа была б вырашана цягам некалькіх дзён”.*

Павал таксама паведамляе, што БХД пачала збор подпісаў каля касцёлаў і заклікае ўсіх каталікоў далучыцца – выйсці збіраць подпісы, спампаваўшы просты зварот з патрабаваннем вызваліць **ксяндза Лазара**, які можна знайсці ў сеціве і пад якім падпісалася ўжо больш за 1000 чалавек.

***belaruspartisan.org***

## Андрэй Пачобут: Рэжыму важна трымаць кантроль і страх над грамадствам




**У турмах ад палітычных вязняў адміністрацыя надалей патрабуе падпісання прашэнняў аб памілаванні на імя кіраўніка краіны. Чаму і навошта праводзіцца практыка, падчас якой ў адносінах да вязняў сумлення ўжываюцца скрайнія меры, у тым ліку катаванні? Пра гэта palitviazni.info распавядае гарадзенскі журналіст, карэспандэнт "Gazety Wyborczej" Андрэй Пачобут.**

**Андрэй Пачобут:** *Сапраўды, катаванні – досыць распаўсюджаная практыка ў турмах. Пра гэта сведчыў у адным са сваіх апошніх лістах з турмы і Мікола Статкевіч. Вядома, што ўлады вельмі хочуць, каб асуджаныя пакаяліся перад імі, каб напрасілі прабачэння. І гэта нязменная тактыка, якая не залежыць ад дыялогаў, візітаў і кантактаў. Бо гэтыя лісты нібы дазваляюць захаваць уладам твар у гэтай сітуацыі.*

**- Але ж вядома, што гульня ад пачатку няшчырая, ці гэтыя захады сапраўды адбеляць улады? Ці ўдасца надалей рабіць добрую міну пры кепскай гульні, бо ў адносінах да некаторых палітвязняў абвінавачванні знятыя?**

**Андрэй Пачобут:** *Як раз цяпер знятыя абвінавачванні з шэрагу палітыкаў, грамадскіх дзеячаў і журналістаў за Плошчу-2010. Але нельга казаць, што адбываецца нейкае паслабленне, альбо нават нейкім чынам увязваць гэтыя падзеі з візітам афіцыйных чыноўнікаў у Еўразвяз. Гэта аб'ектыўная рэальнасць, што закончыліся тэрміны, і гэтага працэсу немагчыма стрымаць нейкім штучным чынам. З другога боку высоўваць нейкія новыя абвінавачванні шэрагу асобам, палітвязням – гэта ўжо сапраўды перашкодзіла б планам афіцыйнага Менску, ці дакладней, гульням, якія вядзе рэжым.*

**- Пасля таго, як былі прыпыненыя санкцыі ў адносінах да міністра замежных спраў Макея, прагучалі перасцярогі, што рэальна афіцыйны Менск не зробіць нейкіх саступак, але прапагандай будзе скарыстана заканчэнне турэмных тэрмінаў, нібы за жэст добрай волі. Ці магчыма ўвесці ў зман у такой сітуацыі?**

**Андрэй Пачобут:** *Не, гэта безумоўна лухта і няпраўда. Тут сапраўды, аб'ектыўны працэс, заканчэнне тэрмінаў. Я думаю, што ў Еўропе ніхто не разглядае сканчэнне тэрмінаў, як саступку беларускага рэжыму. Магчыма, што ёсць нейкая катэгорыя людзей, якая любую звестку інтэрпрэтуюць па-свойму. Магчыма, што будуць весціся размовы аб лібералізацыі, але на самой справе тое, што сёння адбываецца – гэта пэўны палітычны стыль. Тут няма крокаў а ні ў бок лібералізацыі, або закручвання гаек. У грамадстве надалей застаецца вялікі страх. А тыя людзі, якія заангажаваныя ў дыялог з рэжымам, спрабуюць зрабіць нейкі піяр вакол пэўных рэчаў. Але існая палітычная сітуацыя ў Беларусі надалей нагадвае штыль і застой, а ўзровень страху ў грамадстве такі самы, як і быў. А ўлада пэўнымі рэчамі, пэўнымі працэсамі паказвае з аднаго боку, што кірунак на рэпрэсіі надалей нязменны.*

**- Такім чынам справы ў адносінах да некаторых – працяг гэтай палітыкі?**

**Андрэй Пачобут:** *Так, гэта чарговы раз пацвярджае, што беларускі рэжым не мае намеру адмовіцца ад палітыкі рэпрэсіяў ў дачыненні да палітычнай апазіцыі. Таму, калі ў рэжыма з'яўляецца адчуванне, што трэба павялічыць узровень страху ў грамадстве, то пераслед ізноў пачынаецца. Рэжыму не складана знайсці чарговую ахвяру. Я ўжо адзначаў, што тое, што адбываецца, звыклы працяг. Цяпер многія любяць узгадваць пра 2008, пра 2010 гады, што была лібералізацыя. Але ж пра сапраўднасць гэтых словаў найлепш запытацца ў Міколы Статкевіча, які менавіта ў гэты час быў прыцягнуты да адказнасці.* ***(Цалкам інтэрв'ю на сайце palitviazni.info).***

## Саша Кулаева: Нават пасля вызвалення вязняў сумлення абмяжоўваюць




**Акцыі салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі прайшлі літаральна ва ўсім свеце. Сумна, але факт, што свабодна выказаць сваю пазіцыю і салідарнасць з вязнямі сумлення змаглі грамадзяне шматлікіх краінаў, але не ў Беларусі. Супрацоўніца парыжскага бюро FIDH, адказная за працу з краінамі Усходняй Еўропы і Сярэдняй Азіі, Саша Кулаева лічыць, што грамадзяне Еўропы досыць добра ведаюць пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.**

**Саша Кулаева:** *Акцыі салідарнасці сёлета набылі даволі шырокую геаграфію. Прынамсі ў Еўропе рознага кшталту мерапрыемствы прайшлі ў многіх краінах. Міжнародная арганізацыя па правах чалавека таксама правяла акцыю ў сацыяльных сетках. Сутнасць гэтай акцыі заключалася ў тым, што ўсе ахвотныя маглі ў сваіх сацыяльных сетках: твітэры, фэйсбуку ды іншых, адначасова выкласці заклік вызваліць Алеся Бяляцкага. І гэтую акцыю падтрымалі больш за 245 тысячаў чалавек. Цягам двух тыдняў працягвалася гэтая акцыя. Шкада, што на фоне гэтага адбываюцца арышты ў Беларусі, дзе былі затрыманыя праваабаронцы.*

**- Інтэрнэт-супольнасць надзвычай актыўна падтрымала акцыю. Але якія вынікі публікацыі гэтых пастоў у віртуальнай прасторы? Ці даведаюцца пра гэтую хвалю салідрнасці чыноўнікі ў Менску?**

**Саша Кулаева:** *Сапраўды, актыўнасць надзвычай высокая і сведчыць, што грамадзяне Еўропы, прынамсі, добра ведаюць пра палітвязняў у Беларусі. Свае допісы таксама выставілі такія арганізацыі, як Англійскі ПЭН-клуб, Amnesty, Freedom Haus, і сотні тысяч іншых асобаў і арганізацыяў у Амерыцы, Еўропе ды Азіі. Таксама з заявамі выступілі і афіцыйныя дзяржаўныя ўстановы шматлікіх краінаў свету. Акрамя гэтага акцыі адбыліся і ў Цюрыху, Парыжы, Празе, Варшаве, Вільні ды іншых гарадах. Падтрымалі супольнасць Беларусі нават у Кыргызстане, перад Беларускай амбасадай. Што да інфармавання афіцыйных уладаў Беларусі, то мы ім накіравалі афіцыйны зварот. Канешне, гэта ўжо далёка не першы наш зварот да іх. Мы пры гэтым звяртаемся да пастановы ААН, якое прызнала затрыманне Алеся Бяляцкага незаконным, а таксама патрабуе вызваліць праваабаронца. Чарговы раз мы накіравалі і гэты дакумент у МЗС Беларусі. Але, на жаль, мы атрымалі адпіску, што рашэнні ААН не з'яўляюцца абавязковымі для выканання афіцыйным Менскам. Пры гэтым мы цудоўна ведаем, што гэта проста лухта, паколькі Беларусь з'яўляецца чальцом ААН, таму міжнароднае заканадаўства з'яўляецца абавязковым і для чыноўнікаў у Менску.*

**- Гэтак жа, наперакор ўсяму свету, ўлады краіны надалей вядуць барацьбу не толькі з праваабаронцамі, палітыкамі, але нават з тымі, хто жадае выказаць салідарнасць з імі. Чаму, на Вашу думку?**

**Саша Кулаева:** *На жаль гэта сапраўды так. Але ў той жа час мы карыстаемся любой магчымасцю выказаць свае патрабаванні аб спыненні пераследу непасрэдна беларускім уладам. Паколькі ў Беларусі гэта не тое, што цяжка, але нават і немагчыма цяпер. Апошняй нашай акцыяй быў мітынг ў Брусэлі, падчас прыезду міністра замежных спраў Беларусі. Увогуле сітуацыя надалей застаецца досыць цяжкай і ў плане выканання правоў чалавека, і нават становішча палітвязняў у турмах. Вязняў сумлення не толькі кідаюць за краты, але нават і ў турмах у дачыненні да іх чыніцца здзек і катаванні. Адміністрацыя турмаў стараецца абмежаваць вязням усякія магчымасці нармальных зносінаў з іншымі вязнямі.* ***(Цалкам інтэрв'ю на сайце palitviazni.info).***

## Бяляцкі намінаваны на прэмію Вацлава Гавэла



**Беларускага праваабаронцу вылучылі больш за 30 польскіх НДА.**

Пра гэта паведамляе сайт **spring96.org.**

Акрамя **Алеся Бяляцкага** на прэмію Вацлава Гавэла па правах чалавека намінаваныя Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія) і Rights Defence Network (Кітай).

Адборачная камісія, якая складаецца з шасці незалежных дзеячоў і пад старшынством **Жан-Клода Міньёна**, прэзідэнта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ), 26 жніўня падрыхтавалі шорт ліст на аснове 27 кандыдатур, якія адпавядалі крытэрам прэміі.

Як паведамляе сайт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, спачатку журы прадставіла спіс з шасці кандыдатаў, сярод якіх былі названыя Людміла Аляксеева (Расія), Алесь Бяляцкі (Беларусь), Грузінская Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія), Вянгерскі Хельсінскі камітэт (Венгрыя), Псіхічны цэнтр абароны інвалідаў (Венгрыя) і Сетка абароны правоў (Кітай).

Беларускага праваабаронцу вылучылі больш за 30 польскіх НДА. Ініцыятыва ўзнагароджання Алеся Бяляцкага прэміяй Вацлава Гавэла належыць фонду Стэфана Баторыя.

*"Неабходна заахвочваць і змяшчаць у цэнтры ўвагі тых, хто бярэ на сябе абавязацельствы ў галіне правоў чалавека, і гэта тое, што мы, магчыма, найменшае, што можам зрабіць для іх. Гэта тое, што робіць прэмію"*, - сказаў прэзідэнта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Жан-Клод Міньён, калі ён абвясціў пра вынікі галасавання.

Імя пераможцы афіцыйна будзе абвешчана старшынёй ПАСЕ ў 12.30 у першы дзень восеньскай сесіі ў Стразбургу, 30 верасня 2013 года.

Мэтаю Прэміі Вацлава Гавэла па правах чалавека, з'яўляецца заахвочвання выбітных дзеячоў грамадзянскай супольнасці ў абароне правоў чалавека ў Еўропе і за яе межамі, уручаецца кожны год на Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, у партнёрстве з Бібліятэкай Вацлава Гавэла і фондам "Charta 77". Яе вартасць € 60 000.